№ 2 (3947)

9 студзеня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКЦЫЯ

## Галоўнае – вызваліць палітвязня з-за кратаў

*Як вядома, Аб'яднаная грамадзянская партыя абвясціла пра тое, што пачалося стварэнне ініцыятыўнай групы па вылучэнні Мікалая Статкевіча кандыдатам у прэзідэнты.*



Нагадаем, што Статкевіч, які балатаваўся на прэзідэнцкую пасаду і на мінулых выбарах, зараз знаходзіцца за кратамі, таму незвычайная, можна сказаць, датэрмінова ініцыятыва АГП выклікала шэраг пытанняў.

Старшыня партыі Анатоль Лябедзька патлумачыў "Народнай Волі":

– Для нас гэта частка агульнай кампаніі за сумленныя і справядлівыя выбары. Мы не з Марса прыляцелі і цудоўна разумеем, што ініцыятыўную групу Статкевіча ніхто не зарэгіструе. Але мы пачынаем гэтую кампанію тут і цяпер, каб прыцягнуць увагу да гэтай тэмы. Ужо недзе з два дзясяткі vip-персон увайшлі ў групу, сярод іх народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка, Станіслаў Багданкевіч, Віктар Карняенка, Аляксандр Дабравольскі, Марат Афанасьеў ды іншыя. Так што гэта не адмысловая кампанія АГП. Сябры з атачэння Статкевіча, напрыклад той жа Алесь Арэстовіч, агучылі раней, што яны будуць ствараць ініцыятыўную групу. Раней і лідар кампаніі "Гавары праўду!" Уладзімір Някляеў выступаў з гэтай ідэяй. Гэтая палітычная кампанія, галоўнымі мэтамі якой ёсць вызваленне палітвязняў і ўсталяванне справядлівых сумленных выбараў, у якіх можна будзе ўдзельнічаць без перспектывы далейшага зняволення і паразы ў палітычных правах.

Нагадаем, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года Мікалая Статкевіча пакаралі зняволеннем на шэсць гадоў, абвінаваціўшы ў арганізацыі масавых беспарадкаў у дзень галасавання.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СЛЫШАЛИ?

## Гарантии начинаются с 10 миллионов…

Национальный банк Беларуси рекомендовал коммерческим банкам скорректировать условия гарантированных рублевых вкладов, привлекаемых с 1 января 2015 года.

Как отмечается в письме Нацбанка, срок вклада должен составлять 1 год, минимальная сумма первоначального взноса – 10 миллионов рублей. Ставка по основному процентному доходу не должна превышать ставки рефинансирования, уменьшенной на 5 процентных пунктов. Размер дополнительного процентного дохода зависит от изменения курса доллара.

Как заявил в комментарии для БЕЛТА аналитик группы компаний Forex Club **Валерий ПОЛХОВСКИЙ**, *«введение минимальной суммы первоначального взноса в 10 миллионов рублей позволит не допустить, чтобы открывалось слишком большое число мелких вкладов. Это позволит снять нагрузку с банков в случае ажиотажа»*.

Валерий Полховский отметил, что гарантированные рублевые вклады стали сильным инструментом против девальвационных ожиданий и к любым изменениям в условиях их размещения стоит подходить осторожно.

Он обратил внимание, что до декабря 2014 года вклады с механизмом индексации сбережений при изменении обменного курса белорусского рубля не значились среди самых популярных банковских продуктов. Однако именно ими воспользовались многие вкладчики, когда был введен 30-процентный сбор при покупке валюты.

Срочные гарантированные рублевые вклады, которые защищены от курсовых рисков, предлагают «Беларусбанк» («Гарант»), «Белинвестбанк» («Расчетливый») и «Белагропромбанк» («Индексируемый»).

ТЭНДЭНЦЫІ

## З учарашняга дня адменены падатак пры куплі замежнай валюты на Беларускай валютна-фондавай біржы

Пры гэтым курс долара на таргах павысіўся адразу на 960 рублёў (еўра падаражэў на 940 рублёў). Нагадаем, што падатак у памеры 30 працэнтаў быў уведзены 20 снежня мінулага года для стабілізацыі сітуацыі на валютным рынку. Праз дзевяць дзён збор быў зніжаны да 20 працэнтаў, а 5 студзеня – да 10%. Чакаецца, што сёння будзе адменены аналагічны камісійны збор пры пакупцы валюты і для грамадзян.

Такім чынам, у параўнанні з курсам на дату прызначэння новага старшыні Нацбанка Паўла Калаура, афіцыйны курс долара вырас на 26 працэнтаў – з 10.900 да 13.760 рублёў.

Многія эканамісты называюць уведзенне падатку схаванай дэвальвацыяй і мяркуюць, што долар працягне ўмацоўвацца. Час пакажа...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ТРАГЕДИЯ

## Расстрел журналистов еженедельной газеты Charlie Hebdo, произошедший в центре Парижа 7 января, стал трагедией не только для Франции







### Гэта жахліва!

Падчас сустрэчы ў французскай амбасадзе сябры журналісцкай супольнасці яшчэ раз падкрэслілі недапушчальнасць любых нападаў на журналістаў, асабліва ў мірны час у мірнай краіне.

– Калі нашы калегі скіроўваюцца ў тую ці іншую "гарачую кропку", кожны з іх усведамляе ўзровень рызыкі. Але немагчыма зразумець сітуацыю, калі забойствы журналістаў здараюцца ў мірнай абстаноўцы. Гэта жахліва, і ніякага апраўдання дзеянням тэрарыстаў быць не можа, – адзначыла падчас сустрэчы старшыня ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Жанна Літвіна.

– Часопіс Charlie Hebdo з'яўляецца сапраўдным апірышчам свабоды слова ў Францыі, бо актыўна і адкрыта крытыкуе прадстаўнікоў любых сфер грамадскага і палітычнага жыцця. На нашу думку, менавіта такімі – свабоднымі і адкрытымі – павінны быць сродкі масавай інфармацыі ў Францыі і наогул ва ўсім свеце. Трагедыя, што адбылася, закранула ўвесь французскі народ. Менавіта таму мы лічым, што 7 студзеня ў цэнтры Парыжа мы атрымалі 12 забітых і 66 мільёнаў параненых, – заявіла на сустрэчы першы дарадца амбасадара Францыі ў Беларусі Эльза Пінъёль.

Сябры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" ускладі кветкі да брамы амбасады, а таксама пакінулі запісы ў кнізе спачуванняў, якая ад сённяшняга дня знаходзіцца ў бібліятэцы дыпламатычнага прадстаўніцтва (пл. Свабоды, 11).

Паводле слоў прэс-аташэ амбасады Наталлі Зайцавай, пакінуць запіс у кнізе зможа любы ахвотны ў пятніцу, 9 снежня, з 8.30 да 12.00 і з 13.30 да 16.00.

РЕГИСТРАТУРА

## «Не допускать рост цен»

*Министерство здравоохранения приказало заморозить цены на платные медуслуги.*

Вслед за письмом с запретом поднимать цены на лекарственные средства, разосланным в аптечные сети, Министерство здравоохранения накануне новогодних праздников направило еще одно письмо – руководителям Минского и областных управлений здравоохранения, а также руководителям госклиник и частных медцентров. Документ небольшой, но емкий. Поручено:

*«– не допускать рост цен на платные медуслуги для граждан Беларуси (в том числе и на используемые расходные материалы), оказываемые юридическими лицами и индивидуальными предпринимателями;*

*– начальникам управлений здравоохранения облисполкомов, председателю комитета по здравоохранению Мингорисполкома организовать четкую систему контроля в регионе за изменением уровня цен на платные медуслуги, оказываемые юридическими лицами и индивидуальными предпринимателями...»*.

Каждый понедельник до 17.00 чиновники от медицины обязаны информировать Минздрав о ситуации с ценами на платные медуслуги. Как и в ситуации с ценами на лекарства, «до особого распоряжения». Т.е. как долго государственные клиники и частные медцентры не смогут повышать цены на свои услуги – не известно.

Стоить отметить, что последний раз цены на платные услуги в госклиниках и поликлиниках повышались в августе прошлого года. Это было связано с тем, что Совет министров отменил государственное регулирование цен на платные консультации врачей-специалистов. И тогда в госклиниках консультации врачей существенно выросли в цене (в некоторых случаях даже в 2 раза) и практически сравнялись с ценами частных медцентров. Т.е. получается, что в государственных клиниках цена консультации врача, кандидата наук, профессора остается неизменной уже пять месяцев. В то же время в частных медцентрах цены хоть и ненамного, но повышались и в ноябре, и в декабре. Сегодня в крупных медицинских центрах за первичный прием врача-специалиста приходится платить в среднем от 240 до 300 тысяч. Для сравнения: в госклиниках первичная консультация врача-специалиста второй категории стоит приблизительно 100–110 тысяч, если врач имеет ученое звание доцента или доктора наук – от 205 до 280 тысяч.

Готовы ли государственные клиники и частные медцентры выполнять новое распоряжение Минздрава и заморозить цены на платные услуги?

– *Если честно, о письме Минздрава мы узнали из интернета*, – призналась вчера в администрации одного столичного негосударственного медцентра. – *Официально нам никаких писем не приходило. Правда, в декабре в Министерстве здравоохранения проходило совещание, и нам уже тогда было сказано не повышать цены на свои услуги... Безусловно, распоряжение Минздрава мы обязаны выполнять: никто не хочет терять лицензию...*

По словам собеседника, в ближайшее время в частных медцентрах прежними останутся цены не только на прием к врачу-специалисту, но и на диагностические и лабораторные исследования.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## "Свабода адна, яна непадзельная"

Былыя савецкія дысідэнты выказалі падтрымку беларускім палітзняволеным.

Павел Літвінаў і Віктар Файнберг, удзельнікі дэманстрацыі пратэсту супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію, якая прайшла 25 жніўня 1968 года на Краснай плошчы ў Маскве, выказалі падтрымку беларускім палітвязням.

*«Дарагія сябры! Я рады магчымасці сустрэцца з вамі хоць бы завочна. Дзякуй вам за тое, што вы высока паднялі наш сцяг. Ён агульны таму, што свабода адна, яна непадзельная. З братэрскім прывітаннем Віктар Файнберг»*.

*"Выказваю глыбокае спачуванне і падтрымку беларускім вязням сумлення. Спадзяюся на хуткае вызваленне і перамогу"*, – напісаў Павел Літвінаў.

Дэманстрацыя 25 жніўня 1968 года была праведзена на Краснай плошчы групай з васьмі савецкіх дысідэнтаў: Канстанціна Бабіцкага, Тацяны Баевай, Ларысы Багараз, Наталлі Гарбанеўскай, Вадзіма Дэлоне, Уладзіміра Драмлюгі, Паўла Літвіна і Віктара Файнберга – у знак пратэсту супраць уводзінаў у ноч з 20 на 21 жніўня ў Чэхаславакію войскаў СССР і іншых краін Варшаўскай дамовы для падаўлення так званай «Пражскай вясны». Гэтая дэманстрацыя стала адной з найбольш значных акцый савецкіх дысідэнтаў. Удзельнікі акцыі атрымалі суровыя судовыя прысуды і доўгі час знаходзіліся ў турмах або на прымусовым псіхіятрычным «лячэнні». Пасля вызвалення яны працягнулі сваю дысідэнцкую дзейнасць. На сённяшні дзень з удзельнікаў дэманстрацыі ў жывых засталіся толькі двое – Віктар Файнберг і Павел Літвінаў.

СУД

## Хопіць з імі цацкацца!

Суд Маскоўскага раёна Мінска вынес прыгавор па справе вадзіцеля, які, будучы ў стане алкагольнага ап'янення, збіў насмерць двух пешаходаў на прыпынку па вуліцы Ясеніна ў беларускай сталіцы.

Як адзначаецца ў паведамленні прэс-службы Вярхоўнага суда Беларусі, суд прыгаварыў абвінавачанага да 8 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Акрамя таго, суд пастанавіў пазбавіць абвінавачанага права кіраваць транспартнымі сродкамі на 5 гадоў, а таксама канфіскаваць аўтамабіль BMW, які належыць абвінавачанаму.

Прысудам таксама пастаноўлена спагнаць з уладальніка транспартнага сродку грашовую кампенсацыю ў кошт кампенсацыі маральнай шкоды на карысць пацярпелых у памеры 250 мільёнаў рублёў.

Нагадаем, што здарэнне адбылося ў сярэдзіне верасня 2014 года ў сталічным мікрараёне "Малінаўка". Вадзіцель не справіўся з кіраваннем, вывернуў на сустрэчную паласу і на высокай хуткасці вылецеў на прыпынак, дзе ў той момант стаялі два чалавекі. У выніку ДТЗ пажылая жанчына загінула на месцы, яшчэ адзін пацярпелы – таксама пажылы мужчына – памёр у бальніцы.

ПРЫКЛАД

## Сетка запраўак "А-100" афіцыйна пацвердзіла пераход на беларускую мову

З 1 студзеня ўсім аператарам рэкамендавана размаўляць з кліентамі па-беларуску, а на працягу месяца будуць заменены ўсе шыльды і цэтлікі.

Як адзначыла генеральны дырэктар сеткі запраўак "А-100" **Ірына Валадзько**, праграма пераходу на беларускую мову будзе мяккай і паступовай. На працягу 2015 года на запраўках можна будзе пачуць абедзве дзяржаўныя мовы. Але цяпер асноўнай версіяй сайта кампаніі з'яўляецца беларуская, па-беларуску вядзецца суполка ў сацсетках.

Аператарам рэкамендавалі з усімі размаўляць па-беларуску, але зразумела, што такія рэчы не робяцца за адзін дзень паводле загаду зверху. Таму спадарыня Валадзько заклікае кліентаў ставіцца з разуменнем, дапамагаць і канструктыўна крытыкаваць ініцыятыву кампаніі.

У прэс-рэлізе адзначаецца, што пераход "А-100" на беларускую мову адбыўся пры шчырым супрацоўніцтве з курсамі "Мова Нанова". У прыватнасці, для супрацоўнікаў былі арганізаваны заняткі па праграме курсаў. А эксперты-перакладчыкі службы "Хуткая моўная дапамога" бясплатна пераклалі шыльды і абвесткі на запраўках, больш за 3000 цэтлікаў для тавараў, а таксама стварылі размоўнік для персаналу. Усё гэта будзе паступова з'яўляцца на ўсіх паліўных станцыях "А-100".

У рэлізе таксама падкрэсліваецца, што "А-100" – адзіная ў Беларусі прыватная сетка запраўак з беларускім капіталам.

НАДВОР'Е

## Завіруха мяце, завіруха…

Сёння, 9 студзеня, у Беларусі чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. Прагназуюцца снег (у многіх раёнах пройдзе моцны снег), завіруха. Месцамі чакаецца мокры снег, наліпанне мокрага снегу, галалёд.

На асобных участках дарог захаваецца галалёдзіца. Вецер будзе паўднёвы з пераходам на заходні, 6–11 м/с, на большай частцы тэрыторыі – з парывамі да 15–20 м/с.

Тэмпература паветра ўначы складзе ад -1 па захадзе да -10 градусаў па ўсходзе. Удзень чакаецца ад -2 да +3 градусаў.

У наступныя дні ў Беларусі днём захаваюцца плюсавыя тэмпературы.

*Абу-Бекир ШАБАНОВИЧ, муфтий Беларуси:*

## «В Коране не сказано, что ты должен убивать, защищая религию»

***С вопросами, почему трое вооруженных людей с криком «Аллах Акбар!» убили 12 человек и не может ли произойти нечто подобное в Беларуси, «Народная Воля» обратилась к муфтию Республиканского религиозного объединения «Мусульманское религиозное объединение в Республике Беларусь» Абу-Бекиру Шабановичу.***



**– Тысячи жителей европейских городов вышли на митинги, высказывая негодование по поводу произошедшего. А какова позиция белорусских мусульман?**

– Отношусь к массовому убийству журналистов с глубочайшим осуждением. Если ты мусульманин и убиваешь беспричинно другого человека, ты выходишь из религии. Совершив такой проступок, убийца выступил против Всевышнего, сотворившего нас. Тот, кто по своему убеждению убивает беспричинно, идет против законов, изложенных в Коране. Преступники должны нести наказание как в мирской жизни, по законодательству своего государства, так и в вечной жизни.

**– Цитирую написанное в Коране: *«Того, кто создаст изображение, Аллах станет подвергать мучениям до тех пор, пока не вдохнет в него дух»*. Это ли не призыв к насильственным действиям в отношении тех, кто решил изобразить одушевленное существо?**

– Только фанаты и радикалы могут воспринимать эти слова таким образом. Аят, который вы привели в примерном переводе, – не руководство к действию. Увидев нарушение, я не должен проходить мимо, надо подсказать допустившему его человеку, что у нас это не принято. Но если так принято в другой религии, нельзя требовать этого! Государственные органы, работающие в стране, от которых зависит принятие решений, могут подсказать издательству, как именно допустимо пользоваться свободой слова: не оскорблять чувства других, не вести к расколу и противоречиям в обществе. Опубликовав карикатуры, вы сделали плохо, не повторяйте этого! К чему мы придем, критикуя верующих? К тому, что они пойдут друг против друга?

Именно так однажды поступила Генпрокуратура Беларуси, отреагировав на аналогичный случай, когда одно из изданий опубликовало несколько карикатур....

**– Говорите об уголовном деле в отношении выпускающего редактора газеты «Згода» Александра Сдвижкова, допустившего публикацию восьми карикатур на пророка Мухаммеда?**

– Да. О происшествии мне сообщили верующие и, признаюсь, я поначалу не поверил, что такое могло произойти. «У нас, в спокойной Беларуси, вы уверены?» – переспрашивал я. Уполномоченный по делам религии, с которым связался, оперативно уведомил Генпрокуратуру. Пока я доехал в министерство для беседы, тираж начали изымать из продажи.

**– Действительно, узнав о публикации, главный редактор и учредитель «Згоды» распорядился остановить распространение газеты…**

– В тот раз сработали четко и оперативно. Нельзя допускать раскола, у нас хватает и других проблем! Уже потом, на судебном заседании по делу Сдвижкова, которое я посетил, на обвиняемого было жалко смотреть: человек по глупости попал в переделку. Благодаря оперативному вмешательству государства, гражданское сообщество осталось на том уровне, на каком оно и было.

*(Окончание на 2-й стр.)*

